**Генадзь Семянчук, Андрэй Мяцельскі,**
**Лявон Калядзінскі**
(Гродна)

# Прафесар Міхась Ткачоў (10.03.1942 — 31.10.1992) Навуковец. Грамадскі дзеяч. Настаўнік



*Злева: праф. Міхась Ткачоў*

10 сакавіка 2012 г. споўнілася б 70 год вядомаму беларускаму навукоўцу, грамадскаму і палітычнаму дзеячу, настаўніку Міхасю Ткачову. Сёлета ж, 31 кастрычніка, споўніцца 20 гадоў з дня ягонай смерці. Доктар гістарычных навук, прафесар Міхась Ткачоў нарадзіўся ў старажытным беларускім горадзе Мсціславе ў сям'і настаўнікаў Аляксандра Рыгоравіча (загінуў у 1942 г. пад Ленінградам, не даведаўшыся аб нараджэнні сына) і Дамінікі Сямёнаўны. Багатая гісторыя роднага горада, яе матэрыяльныя рэшткі ў выглядзе Замкавай гары, царквы Аляксандра Неўскага, касцёлаў і кляштараў кармелітаў і езуітаў моцна паўплывалі на станаўленне рамантычнай асобы будучага навукоўца. З іншага боку цяжкае і паўгалоднае паваеннае жыццё ў сталінскім і постсталінскім Савецкім Саюзе, несправядлівасці і здзекі над людзьмі з боку функцыянераў камуністычнай партыі і чыноўнікаў савецкай улады спрычыніліся да ранняга духоўнага і грамадзянскага сталення.

У 1959 г. Міхась Ткачоў паступае на гістарычны факультэт БДУ. Менавіта з гэтага часу ён канчаткова прыкіпеў да сярэднявечнай гісторыі беларускага народа. Але вучоба пачалася не адразу. Бо „разумнікі" з міністэрства адукацыі прыдумалі чарговы, тыповы для бальшавікоў, загад: школьнікі, якія не мелі двух гадоў працоўнага стажу, першы курс вучыліся завочна. Гэта значыць, будучыя інтэлігенты павінны былі прайсці пралетар-

ска-сялянскую загартоўку. Высветлілася, што Міхасю Ткачову не хапае некалькіх месяцаў гэтага працоўнага стажу. Вяртаецца ў Мсціслаў і напрацоўвае неабходнае паляводам у калгасе імя Варашылава.

Адаптацыя да тагачаснага Мінска таксама праходзіла балюча. Міхась Аляксандравіч успамінаў, як ён, правінцыйны хлопец з рамантычнай душою, ехаў у беларускую сталіцу як у духоўны цэнтр сваёй Бацькаўшчыны, а яго сустрэў чужы расейскамоўны горад. Праўда, паступова ён знайшоў там сваё патрыятычнае асяроддзе. Малады студэнт Ткачоў знаёміцца са Станіславам Пятровічам Шушкевічам, беларускім паэтам, які нядаўна вярнуўся з ГУЛАГу, з Язэпам Францавічам Сушынскім, паплечнікам Янкі Купалы яшчэ па працы ў суполцы „Загляне сонца і ў нашае ваконца" і інш. У студэнцкія гады лёс звязвае яго з Мікалаем Улашчыкам, які моцна паўплываў на Міхася Ткачова[1]. Яны сябравалі (вопыт і маладосць) да апошніх дзён Мікалая Улашчыка. І таму сваю перадапошнюю кнігу „Замкі і людзі" М.Ткачоў прысвячае гэтаму выдатнаму беларускаму навукоўцу. А Мікалай Мікалаевіч Улашчык у свой час падарыў Ткачову падрыхтаваны ім XXXV том з серыі „Полное собрание русских летописей", у якім былі надрукаваны частка беларуска-літоўскіх летапісаў з аўтографам і прысвячэннем: „Дазорцу беларускіх замкаў". Былі таксама сустрэчы і іншага характару. Сумнавядомы Лаўрэнцій Сямёнавіч Абецэдарскі доўгі час карміў абяцанкамі маладога і здольнага студэнта будучай аспірантурай. А калі дайшло да справы, адмовіў.

Пасля заканчэння ў 1964 г. вучобы ва ўніверсітэце Міхась Ткачоў быў размеркаваны на працу настаўнікам у г. Жодзіна, дзе, працуючы ў школе, ён доўга чакаў, калі адбудзецца набор у аспірантуру Інстытута гісторыі АН БССР у сектар гісторыі Беларусі эпохі феадалізму. Але ўсё марна, на гэты гістарычны кірунак тады не набіралі. Таму праз 4 гады, у 1968 г., ён, па парадзе сяброў археолагаў, паступае ў аспірантуру пры Інстытуце гісторыі АН Беларусі па спецыяльнасці археалогія. У выніку атрымалася нават лепей. Лёсам было наканавана, каб ён стаў не кабінетным навукоўцам, а рамантыкам-археолагам. Міхась Ткачоў адным з першых, не толькі на Беларусі, пачаў працаваць на мяжы гісторыі і археалогіі, вывучаючы абарончае дойлідства Вялікага Княства Літоўскага ў сярэднявечны перыяд. Прафесар М. Ткачоў, без перабольшвання, быў пачынальнікам новага накірунку ў археалогіі на еўрапейскай частцы Савецкага Саюза — „гістарычнай археалогіі". Яго заслуга і ў тым, што культурныя напластаванні XIV-XVIII стст. у нашых старажытных гарадах доўга не знішчаліся экскаватарамі. Сёньня „гістарычная археалогія" ўжо агульнапрызнаная галіна навукі, якая паспяхова развіваецца ў Беларусі, Польшчы, Літве, Украіне і іншых краінах.

[1] М. Ткачоў, *Паходня. Кніга публіцыстыкі*, Мінск 1994, с. 17-21.

З 1968 г. і да апошніх дзён праф. Міхась Ткачоў прысвяціў сябе беларускай навуцы. Ім напісана каля 200 навуковых прац, з іх 10 кніг (уключаючы раздзелы ў калектыўных манаграфіях)[2]. У 1972 г. ён абараніў кандыдацкую дысертацыю па тэме *Ваеннае дойлідства Беларусі XIII-XVIII стст. (па помніках паўночна-заходняй і паўднёва-заходняй Беларусі)*, заўважым, напісаную па-беларуску. Праз 15 год, у 1987 г., Міхась Ткачоў паспяхова абараніў доктарскую дысертацыю *Арганізацыя абароны гарадоў Беларусі XIV-XVIII стст.* На падставе гэтых дысертацый ствараліся кнігі, якія маментальна разыходзіліся паміж спецыялістамі і звычайнымі чытачамі. Гэта *Замкі Беларусі* (1-е выд. 1977 г. на беларускай мове, 2-е выд. 1987 г. і 3-е выд. 2002 — па-расейску); *Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII-XVIII стст.* (1978); *Замкі і людзі* (1991). А яшчэ былі цікавыя працы навукова-папулярнага і публіцыстычнага характару: *Вялікае мастацтва артылерыі* (1992, разам з А. М. Бельскім) — біяграфія і жыццёвы лёс беларуса Казіміра Семяновіча, аднаго са стваральнікаў яшчэ ў сярэдзіне — другой палове XVII ст. сістэмы ракетаў; *Старажытны Мсціслаўль* (1992, разам з Алегам Трусавым) — кніга пра сваю малую Бацькаўшчыну; *Паходня. Кніга публіцыстыкі* (1994) — разважанні пра мінулае і будучае самастойнай Беларусі.

Працуючы ў Інстытуце гісторыі, ён, з-за адсутнасці ў Мінску кватэры, працягваў жыць у Жодзіне і на працягу амаль 10 год кожны дзень ездзіў на працу ў сталіцу, што адымала шмат часу. Таму, калі ў Гродне быў арганізаваны ўніверсітэт і яму прапанавалі пераехаць на працу туды, паабяцаўшы жыллё, ён адразу ж згаджаецца. З 1978 г. лёс на доўгія 12 год звязаў Міхася Ткачова з Гроднам. З асаблівай любоўю гэты чалавек ставіўся да горада над Нёманам, вельмі часта і не без падстаў называў яго „сапраўдным музеем пад адкрытым небам". Яшчэ ў 1988 г. ён напісаў на імя тагачаснага першага сакратара Гродзенскага абкама Леаніда Кляцкова зварот-прапанову распрацаваць і рэалізаваць 12-гадовую гісторыка-культурную праграму „Гродна — горад-музей. Гродна — горад музеяў". Прапаноўвалася стварыць у горадзе 18 музеяў і мемарыяльных цэнтраў[3]. У выніку старажытная Гародня пераўтварылася б у нацыянальны і міжнародны цэнтр турызму. Прайшло амаль 25 год з таго часу, а мы зноў чуем і ад грамадскасці, і зрэдку ад улад прапанову пераўтварыць Гродна ў „горад-музей і горад музеяў".

Выдатны навуковец, таленавіты выкладчык, актыўны грамадскі дзеяч, ён пакінуў значны след у жыцці і душах шматлікіх гарадзенцаў розных узростаў. Калі сёння запытаць студэнтаў-гісторыкаў 1978-1989 га-

[2] Поўная бібліяграфія праф. М. Ткачова змешчана ў зборніку навуковых прац *Castrum, urbis et bellum*, Баранавічы 2002.

[3] М. Ткачоў, *Паходня...*, с. 66-70.

доў, якія іх уражанні ад вучобы ў Гродзенскім дзяржаўным універсітэце, большасць успомніць лекцыі па гісторыі, археалогіі і культуры Міхася Ткачова. М. Ткачоў вельмі шмат зрабіў для захавання гістарычнай памяці, помнікаў і культурных месцаў Гродна. Баронячы старажытны горад, ён не баяўся адзін (ці з невялічкай групай аднадумцаў) выступіць супраць разбурэння гістарычных кварталаў XVIII-XIX стст., звярнуўшыся са скаргай ў Савет Міністраў СССР[4]. Яму потым яшчэ доўга партыйная ўлада нагадвала пра гэты ліст.

Плённую навуковую і педагагічную працу ў Гродзенскім універсітэце М. Ткачоў спалучаў з актыўнай грамадскай і палітычнай дзейнасцю. У канцы 80-х гадоў XX ст. ён быў адным з заснавальнікаў і доўгачасовым лідарам гарадзенскага гісторыка-культурнага і палітычнага клуба „Паходня". Клуб „Паходня" зрабіўся сапраўдным цэнтрам дэмакратычнага руху горада, гэта была ўнікальная школа жыцця і патрыятызму для маладых удзельнікаў. Як тады перапалохаліся ахоўнікі савецка-камуністычнай ідэі! Было арганізавана дзікае цкаванне Міхася Ткачова і сяброў „Паходні", запалохванне студэнтаў дэканамі і рэктарамі, абраза інтэлігенцыі. Ну, а калі ён быў вылучаны кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Савета СССР, то які толькі бруд на яго не лілі. Падрабязней аб гэтым можна прачытаць у кнізе публіцыстыкі М. Ткачова *Паходня*. Адзін толькі прыклад — напісаны па замове „палемічны" артыкул Валерыя Чарапіцы[5], дэкана гістарычнага факультэта Гродзенскага дзяржуніверсітэта імя Янкі Купалы, непасрэднага начальніка Ткачова, „Будем честными друг к другу", надрукаваны 10 лютага 1989 г. у газеце „Гродзенская праўда". Чарапіца раптам праз месяц выказвае нібы „ўласныя меркаванні" пра ідэі Міхася Ткачова, змешчаныя ў артыкуле апошняга „Хто мы такія" (6 студзеня 1989 г., „Гродзенская праўда"). У сваім тэксце дэкан бараніў кіруючую ролю камуністычнай партыі і сацыялістычны лад жыцця, а стварэнне беларускіх нацыянальных ініцыятыў, арганізацый і суполак разглядаў як варожую дзейнасць. Дарэчы, артыкул В. Чарапіцы пабачыў свет у момант пасляаперацыйнай рэабілітацыі М. Ткачова.

У 1989 г. праф. М. Ткачову прыйшлося пакінуць мілы яго сэрцу горад Гродна і пераехаць жыць і працаваць у Мінск. Працуючы ў рэдакцыі выдавецтва Беларуская Энцыклапедыя (спачатку кіраўніком гістарычнай рэдакцыі, а пазней галоўным рэдактарам), Міхась Ткачоў быў ініцыятарам

[4] М. Ткачоў, *Паходня...*, с. 31-33.

[5] Восенню 2011 г. прафесар факультэта гісторыі і сацыялогіі Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы Валеры Чарапіца ініцыяваў і, разам з дэканам дацэнтам Эдмундам Ярмусікам, давёў да фіналу працэс адлічэння з універсітэта сваёй аспіранткі Тацяны Касатай, якая з'яўлялася актывісткай руху „Гавары праўду". Сумняваемся, што гэта была яго ўласная ініцыятыва *(заўвага Рэдакцыі)*.

стварэння фундаментальных энцыклапедый *Археалогія і нумізматыка Беларусі* і шасцітомнай *Энцыклапедыя гісторыі Беларусі.* Менавіта Ткачоў пасля нарады (лістапад 1989 г.) па праблемах гісторыі Беларусі, якая адбылася ў БелЭн імя П. Броўкі, пісаў ліст тагачаснаму прэзідэнту АН БССР Уладзіміру Платонаву з просьбай разгледзець магчымасць выдаваць пад дахам Акадэміі навук масавы навуковы ілюстраваны часопіс „Гісторыя Беларусі”[6]. Галоўнай мэтай прапанавага выдання бачылася гістарычная адукацыя беларускага насельніцтва, так неабходная для фармавання сапраўднай нацыянальнай самасвядомасці. Пад час нядоўгага перыяду працы ў выдавецтве Беларуская Энцыклапедыя М. Ткачоў праявіў сябе не толькі здольным арганізатарам, а таксама вельмі пладавітым аўтарам. Для двух названых выданняў ён напісаў больш за 100 артыкулаў па ўсіх вядомых на той час айчынных замках і іншых фартыфікацыйных збудаваннях, а таксама разнастайных відах сярэднявечнага і навачаснага ўзбраення. На падставе яго тэкстаў можна складаць сваеасаблівы каталог *architectura militaris* Беларусі ад XIII да XVIII стст.

Актыўная грамадзянская і патрыятычная пазіцыя Міхася Ткачова не дазваляла яму знаходзіцца на ўскрайку бурлівых перамен, якія адбываліся на тэрыторыі спарахнелага і развальваючагася Савецкага Саюза. Ад самага пачатку, з чэрвеня 1988 г., ён знаходзіўся ў першых шэрагах адраджэнцаў незалежнай Беларусі. У гэты час Міхась Ткачоў абіраецца намеснікам старшыні Сойму Беларускага Народнага Фронту. Гэта была фігура ў кіраўніцтве БНФ, сустрэчы і супрацоўніцтва з якой шукала савецка-камуністычнае кіраўніцтва БССР, бачачы ў ім лідара, які хварэў за Бацькаўшчыну і з якім можна было знайсці кропкі супрацоўніцтва. Да гэтага, улічваючы моц кампартыі, заклікаў і М. А. Ткачоў. Ну а потым, калі сітуацыя запатрабавала заняцця сацыял-дэмакратычнай нішы ў палітычным жыцці Беларусі, ён стаў адным з ініцыятараў, а потым актыўным стваральнікам сацыял-дэмакратычнага руху. У сакавіку 1991 г. Міхась Ткачоў быў абраны старшынёй Цэнтральнай Рады Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Грамады[7]. Да самых апошніх дзён ён актыўна займаўся палітычнай і грамадскай дзейнасцю.

Трэба адзначыць, што праф. М. Ткачоў з 1989 г. праявіў сябе як выдатны публіцыст. Уласнымі тэкстамі ён бараніў сапраўдныя нацыянальныя беларускія гістарычныя каштоўнасці. Газета „Советская Белоруссия” у нумарах за 11 і 12 кастрычніка 1989 г. друкуе артыкул „Нацыянальныя сімвалы: народ і гісторыя”, у якім ён распавядае пра вытокі і лёс герба „Пагоня” і бела-чырвона-белага сцяга. У артыкуле „Пісьменнік, гі-

[6] М. Ткачоў, *Паходня...*, с. 100-101.

[7] А. Сідарэвіч, *Вуліца Ткачова або цяжкая ношка сацыял-дэмакрата*, [у:] М. Ткачоў, *Паходня...*, с. 3-16.

сторыя і «рэвізоры» (часопіс „Полымя” 1989, № 7) паказвае антыбеларускую і антынавуковую сутнасць дзейнасці прафесараў Адама Залескага, Якава Мараша і іх памочніка з Масквы Вадзіма Каргалава. Прычынай з’яўлення дадзенага тэксту былі нападкі на маладога беларускага пісьменніка Кастуся Тарасава, які сваёй творчасцю адкрываў і папулярызаваў шматлікія занядбаныя старонкі айчыннай гісторыі[8].

Праф. Міхась Ткачоў не паспеў выгадаваць сваіх аспірантаў, фармальна стварыць сваю школу. Аднак у яго былі паплечнікі і вучні, неабыякавыя да сярэднявечнай гісторыі і археалогіі — Алег Трусаў, Лявон Калядзінскі, Тацяна Бубенька, Алесь Краўцэвіч, Алесь Кушнярэвіч, Генадзь Сагановіч, Андрэй Мяцельскі, Генадзь Семянчук, Сяргей Піваварчык і інш. Кожнага з іх характарызуюць высокі прафесіяналізм, актыўная патрыятычная і грамадзянская пазіцыя.

Нягледзячы на факталагічныя, тэарэтычна-метадалагічныя змены, пашырэнне і паглыбленне крыніцазнаўчай базы, у гісторыі айчыннай навукі застаецца бясспрэчным факт, што Міхась Ткачоў стаў першым, хто акадэмічна і комплексна пачаў вывучаць *architectura militaris* і *ars militaris* Беларусі. Гісторык, археолаг, крыніцазнаўца, геральдыст — вось няпоўны спіс яго талентаў. Аднак, галоўная ўвага Міхася Ткачова была накіравана на даследаванне багатай і разнастайнай вайсковай гісторыі Беларусі ў сярэднявеччы і новым часе. Значная разбуранасць і слабая вывучанасць пераважнай большасці помнікаў ваеннага дойлідства Беларусі XIII-XVIII стст. прадвызначылі архітэктурна-археалагічныя раскопкі ў якасці галоўнага метаду іх даследавання. Шырока М. Ткачоў выкарыстоўваў параўнальна-гістарычны (кампаратывістычны) метад — пошукі аналогій падобных старажытнасцей і працэсаў іх фармавання ва Усходняй, Заходняй і Цэнтральнай Еўропе. Таксама фармальна-тыпалагічны метад вывучэння прадметаў узбраення, падобных па форме, матэрыяле і выкарыстоўванню. Адзначым, што ён, як ніхто іншы, змог у сваіх кнігах і артыкулах гарманічна спалучыць археалагічныя дадзеныя з паведамленнямі разнастайных гістарычных і іканаграфічных крыніц, што дазваляла яму рабіць абгрунтаваныя высновы.

У Беларусі да Міхася Ткачова замкавым дойлідствам пераважна займаліся гісторыкі архітэктуры — Юрый Ягораў, Міхаіл Кацар, Уладзімір Чантурыя і, асабліва, Анатоль Міцянін[9]. Айчынныя (Георгі Шты-

[8] Іншыя публіцыстычныя тэксты і літаратурныя практыкаванні Міхася Ткачова чытач знойдзе ў яго кнізе публіцыстыкі *Паходня*, выдадзенай у 1994 г.

[9] Ю. А. Егоров, *Градостроительство Белоруссии*, Москва 1954; М. С. Кацер, *Белорусская архитектура*, Минск 1956; А. Я. Митянин, *Замок в Мире*, автореферат кандидатской диссертации, Минск 1954; ён жа. *Оборонительные сооружения Белоруссии XIII-XVII вв.*, [в:] *Сборник научных работ Института строительства и архитектуры АН БССР*, вып. 1, Минск 1958; А. Я. Митянин, В. А.

хаў, Эдуард Загарульскі, Яраслаў Звяруга, Пётр Лысенка) і расейскія археолагі (Мікалай Варонін, Павел Рапапорт, Фрыда Гурэвіч, Леанід Аляксееў) ў 50-70-х гадах мінулага стагоддзя на нашых землях пераважна вывучалі абарончыя збудаванні гарадоў і ўмацаваных паселішч эпохі Русі (IX-XIII стст.)[10]. Трэба адзначыць, што М. Ткачоў апынуўся пад уплывам „ленінградскай школы" славяна-рускай археалогіі і, асабліва, Паўла Рапапорта, які быў яго навуковым кіраўніком пад час напісання кандыдацкай дысертацыі. Напрыклад, ён падтрымаў высновы П. Рапапорта аб вылучэнні дзвюх груп помнікаў абарончага дойлідства Беларусі IX-XII стст., якія маюць розныя ваенна-інжынерныя традыцыі[11]. Да першай адносяцца помнікі Полацкай зямлі, якія моцна залежалі ад натуральных фізіка-геаграфічных умоў рэльефу, што аб'ядноўвала іх з падобнымі гарадзішчамі Наўгародскай, Смаленскай і Пскоўскай зямель-княстваў. Другую групу складалі ўмацаваныя паселішчы Тураўскай зямлі, Панямоння і Валыні, сярод якіх шмат гарадзішчаў правільнай круглай формы, блізкіх па форме да аналагічных з тэрыторый Польшчы і Чэхіі. Гэтая важная думка П. Рапапорта і М. Ткачова, на жаль, не атрымала належнага развіцця ў айчыннай археалогіі. Можна прыгадаць толькі шэраг кандыдацкіх дысертацый, прысвечаных умацаваным помнікам больш лакальных рэгіёнаў: Сяргея Піваварчыка — Беларускаму Панямонню, Алега Іова — Заходняму Палессю, Вадзіма Кошмана — басейну Бярэзіны Дняпроўскай.

Першыя свае археалагічныя раскопкі М. Ткачоў правёў у жніўні-верасні 1969 г. на ўнікальным археалагічным комплексе каля вёскі Гарадзішча на р. Менка. Менавіта, на гэтым месцы пераважная большасць спецыялістаў лакалізуе першапачатковы Менск, які быў спалены пад час паходу Яраславічаў на Усяслава Брачыславіча Полацкага зімой 1067 г., і нанава адбудаваны на берагах рэк Свіслач і Няміга[12]. М. Ткачоў дас-

Чантурия, *Выдающиеся памятники белорусского зодчества*, [в:] *Строительство и архитектура Белоруссии*, вып. 2, Минск 1958; В. А. Чантурия, *История белорусской архитектуры*, Минск 1969.

[10] Гл.: H. Siemianczuk, *Stan badań i możliwości badawcze archeologii przedlokacyjnych i lokacyjnych miast na ziemiach białoruskich*, [w:] *Procesy lokacyjne miast w Europie Środkowo-Wschodniej*, Wrocław 2006, s. 317-319; Г. Семянчук, *Генезіс беларускіх гарадоў у раннім сярэднявеччы (IX-XIII стст.)*, [у:] *Гістарыяграфія і крыніцы па гісторыі гарадоў і працэсаў урбанізацыі ў Беларусі*, Гродна 2009, с. 11-12.

[11] П. А. Раппопорт, *Военное зодчество западнорусских земель X-XIV вв.*, „Материалы и источники по археологии СССР" Москва 1967, № 140, с. 202-203; М. А. Ткачоў, *Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII-XVIII стст.*, Мінск 1978, с. 13.

[12] Г. В. Штыхов, *Города Полоцкой земли (IX-XIII вв.)*, Минск 1978, с. 63-72; Л. В. Алексеев, *Западные земли домонгольской Руси. Очерки истории, археологии, культуры, в 2-х книгах*, Москва 2006, кн. 1, с. 66-69. Найбольш прынцыповым абаронцам лакалізацыі Менска ад пачатку на сучасным месцы з'яўляецца Эдуард

ледаваў вал каля паўднёвага ўезда на Вялікае гарадзішча. У выніку высвятлілася, што пад валам знаходзяцца культурныя напластаванні першапачатковага неўмацаванага паселішча з керамікай, якая датуецца VI-VIII стст. Абарончыя ўмацаванні распачалі ўзводзіць не раней IX ст. У выніку неаднаразовых пазнейшых падсыпак да пачатку XI ст. вал дасягнуў сваёй найбольшай магутнасці — каля 6 м і быў знішчаны пад час вышэйназваных трагічных падзей 1067 г.[13] Прарэзка вала здзейсненая Міхасём Ткачовым, да сёняшняга дня застаецца найбольш абгрунтаванай у высвятленні праблемы месца гарадзішча на Менцы ў пытаннях генезісу беларускай сталіцы.

Потым былі іншыя шматлікія археалагічна-архітэктанічныя раскопкі М. Ткачова. У 1970 г. даследаванні Камянецкай вежы дазволілі ўпершыню вызначыць памеры і ахарактарызаваць падмуркі збудавання. Гэтыя даследаванні дазволілі зрабіць вымярэнне вышыні вежы ад зубцоў да пачатку фундамента. Яна аказалася роўнай 30,15 см, што амаль дакладна адпавядае летапіснаму паведамленню аб вышыні Камянецкага стаўпа ў 17сажняў пры ўмове, калі лічыць сажнямі махавымі (1 сажань = 177 см). Пад час даследаванняў М. Ткачовым Навагрудскіх замкаў былі выяўлены рэшткі раней невядомых мураваных абарончых збудаванняў другой паловы XIII — пачатку XIV стст. Пры вывучэнні цэнтральнай вежы Шчытоўкі на Замкавай гары, якая датуецца XIV ст., высветлілася, што яна мела папярэдніцу, магутнае цела якой, схаванае ў зямлі на глыбіню 7,5 м, было надзейным і трывалым падмуркам для яе. Руіны яшчэ адной баявой вежы былі адкрыты таксама на тэрыторыі Малога замка. Архіўныя пошукі дазволілі М. Ткачову абгрунтаваць існаванне баявой вежы XIII ст. на дзядзінцы старажытнага Бярэсця, выказаць меркаванне аб існаванні вежаў у Гродне, Тураве, Полацку[14]. Усе пералічаныя мураваныя абарончыя збудаванні другой паловы XIII — пачатку XIV стст. праф. М. Ткачоў аднosіў да тыпу вежаў-данжонаў. Гэты тып умацаванняў уяўляў сабою асобна размешчаную альбо далучаную да замкавых муроў вежу, якая выкарыстоўвалася як для абароны, так і для жылля. Апошнім часам малады даследчык Максім Макараў абгрунтаваў немэтазгоднасць ужывання тэрміна „данжон” адносна ўсіх абарончых вежаў XIII-XIV стст. з беларускіх зямель[15].

Загарульскі (Э. М. Загорульский, *Возникновение Минска*, Минск 1982, с. 30-63).

13 М. А. Ткачев, *Прорезка вала городища на р. Менке*, [в:] *Тезисы докладов к конференции по археологии Белоруссии*, Минск 1969, с. 193-198.

14 М. А. Ткачоў, *Замкі Беларусі*, Мінск 1977, с.7-12; ён жа, *Абарончыя збудаванні Заходніх зямель Беларусі XIII - XVIII стст.*, Мінск 1978, с. 16-26.

15 М. Макараў, *Да пытання выкарыстання тэрміна „данжон” (donjon) у беларускай гістарычнай літаратуры*, [у:] *Гістарычны альманах*, Гародня 2001, т. 5, с. 54-67.

Наступнай катэгорыяй абарончых збудаванняў, якія археалагічна-архітэктанічнымі раскопкамі вывучаў Міхась Ткачоў, гэта замкі-кастэлі ў Лідзе і Крэве, а таксама буйныя замкі агульнадзяржаўнага прызначэння ў Гродне і Навагрудку. Абсалютна новымі ў беларускай навуцы былі археалагічныя даследаванні прыватнаўласніцкіх замкаў заходняй і цэнтральнай Беларусі, як мураваных, так і драўляных: Мір, Іказнь, Геранёны, Мядзел, Маладзечна і інш[16]. Спалучэнне гістарычных даных з інфармацыяй атрыманай пад час раскопак дазвалялі М. Ткачову вызначаць агульную структуру і выяўляць асобныя элементы фартыфікацыі замкаў.

З сярэдзіны 70-х гадоў XX ст. увага праф. М. Ткачова была скіравана на Усходнюю Беларусь, своеасаблівую *tabula rasa* айчыннай сярэднявечнай і навачаснай археалогіі і гістарыяграфіі. Да 1976 г. ён даследуе Беларускае Пасожжа. Упершыню правёў археалагічныя даследаванні ў Гомелі, Чачэрску, што дазволіла вызначыць час узнікнення ўмацаванняў на гэтых помніках. Распачаў буйнамаштабныя даследаванні ў Крычаве (Гарадзец і Замкавая гара)[17], і Прапойску/Слаўгарадзе[18]. Праводзіў даследаванні фартыфікацыйных збудаванняў на пасадзе Мсціслаўля[19].

Паступова ўвага звяртаецца на Падняпроўе і Падзвінне. Менавіта, Міхасю Ткачову належыць прыярытэт навуковага вывучэння Старога Шклова, вынікам якіх стала гіпотэза пра месцазнаходжанне першапачатковага Шклова на гарадзішчы „Гарадок" каля названай вёскі[20]. Ён правёў буйнамаштабныя даследаванні на гарадзішчы каля в. Горы Горацкага раёна[21] і разведвальныя даследаванні ў Магілёве.

На працягу 1977-1978 гг. Міхась Ткачоў узначальвае самыя вялікія на той час раскопкі ў Беларусі — на Верхнім замку ў Віцебску. Менавіта, ён разам з Лявонам Калядзінскім, які самастойна прадоўжыў даследаванні з 1979 г., першымі на Беларусі, а магчыма і шырэй, правялі даследаванні культурных напластаванняў ад дзённай паверхні да мацерыка, магутнасць якіх склала ад 5,7-6,8 м. Тым самым быў пакладзены ў айчыннай археалогіі пачатак скразнога вывучэння культурных нап-

[16] Гл.: М. А. Ткачоў, *Замкі Беларусі*, Мінск 1977; ён жа, *Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII — XVIII стст.*, Мінск 1978.

[17] Гл.: А. А. Мяцельскі, *Старадаўні Крычаў: гістарычна-археалагічны нарыс горада ад старажытных часоў да канца XVIII ст.*, Мінск 2003.

[18] М. А. Ткачоў, А. А. Мяцельскі, *Старажытны Прупой*, [у:] *Магілёўская даўніна*, Магілёў 1997, вып. 5, с. 60-65.

[19] М. А. Ткачоў, А. А. Трусаў, А. А. Мяцельскі, *Некаторыя вынікі археалагічнага вывучэння акружнога горада Мсціслава XII-XVIII стст.*, „Весці АН БССР. Серыя грамадскіх навук" Мінск 1990, № 2, с. 80-88.

[20] М. Ткачоў, *Замкі і людзі*, Мінск 1991, с. 138-139.

[21] А. А. Мяцельскі, М. А. Ткачоў, *Гарадзішча каля в. Горы Горацкага раёна*, [у:] *З глыбі вякоў. Наш край. Гісторыка-культуралагічны зборнік*, вып. 1, Мінск 1996, с. 187-197.

ластаванняў гістарычных гарадоў і мястэчак Беларусі. Бо раней вядомы факты, калі слаі XIV-XIX стст. зніштажаліся бульдозерамі з мэтай хутчэйшага дасягнення да слаёў рускага перыяду (напрыклад, раскопкі Пятра Лысенкі ў Берасці). Вынікі даследаванняў дазволілі ахарактарызаваць стратыграфію і храналогію культурных напластаванняў, планіроўку, абарончыя збудаванні, жылыя і гаспадарчыя пабудовы, побыт і матэрыяльную культуру насельніцтва Верхняга замка[22]. М. Ткачоў будзе вяртацца яшчэ неаднойчы ў Віцебск са студэнтамі-практыкантамі з Гродзенскага дзяржуніверсітэта імя Янкі Купалы (1983-1984 гг.). У гэты час ён разам з Тацянай Бубенькай даследаваў мураваныя рэшткі абарончай вежы Віцебскага Дольнага замка часоў Альгерда[23].

На падставе глыбокага аналізу гістарычных, археалагічных і іканаграфічных крыніц праф. М. Ткачоў прасачыў генезіс, эвалюцыю і этапы развіцця замкаў і абарончых сістэмаў, а таксама арганізацыю абароны беларускіх гарадоў. Ужо ў першай сваёй навукова-папулярнай кнізе *Замкі Беларусі* М. Ткачоў прадставіў упершыню ў айчыннай навуцы класіфікацыю і тыпалогію абарончых збудаванняў сярэдзіны XIII — XVIII стст. Ён вылучыў: 1) вежы-данжоны; 2) замкі агульнадзяржаўнага прызначэння; 3) прыватнаўласніцкія замкі; 4) умацаваныя храмы. У наступнай кнізе *Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII - XVIII стст.* дадзеныя класіфікацыя і тыпалогія пашырыліся, удакладніліся і набылі канчатковы выгляд.

У падставы сваёй класіфікацыі ён прапанаваў пакласці з аднаго боку, сацыяльна-гістарычныя фактары, вылучаючы: 1) гатычныя каменныя вежы-данжоны (Камянец, Гародня, Бярэсце, Навагрудак, Тураў); 2) агульнадзяржаўныя каменныя замкі-кастэлі (Ліда, Крэва, Меднікі) і шматвежавыя замкі (Гародня, Навагрудак, Орша); 3) прыватнаўласніцкія замкі, як каменныя (Мір, Геранёны, Іказнь, Мядзел, Любча і інш.), так і драўляныя (Маладзечна, Радашковічы, Лыскава, Гарадок, Сёмкаў Гарадок, Мыш і інш.); 4) фартыфікацыі гарадоў, у якіх з XVI ст. ствараюцца некалькі абарончых ліній, якія ахоплівалі цэнтр горада і суседнія пасады (Полацк, Віцебск, Слуцк, Магілёў, Бярэсце, Рэчыца); 5) своеасаблівыя замкі — інкастэляваныя культавыя пабудовы (цэрквы ў Сынкавічах, Мураванцы, Супраслі, полацкі Сафійскі сабор; касцёл у Камаях; пратэстанцкія зборы ў Койданаве, Асташыне, Заслаўлі; сінагога ў Быхаве) і жылыя дамы (дом-крэ-

[22] М. А. Ткачёв, Л. В. Колединский, *Итоги археологического изучения Витебска в 1976-1980 гг.*, [в:] *Древнерусское государство и славяне*, Минск 1983, с.69-71; М. А. Ткачёв, Л. В. Колединский, Т. С. Бубенько, *Средневековый Витебск*, [в:] *Труды V Международного конгресса славянской археологии*, т. 3: *Города, их культурны и торговые связи*, Москва 1987, с. 80-88.

[23] М. А. Ткачоў, Т. С. Бубенька, *Да пытання аб каменных умацаваннях Дольнага замка Віцебска*, [у:] *Гісторыка-археалагічны зборнік*, Мінск 1993, № 2, с. 153-161.

пасць у Гайцюнішках); 6) прыватнаўласніцкія замкі еўрапейскага тыпу з бастыённай сістэмай (Нясвіж, Заслаўль, Быхаў, Глуск, Каралін пад Пінскам і інш.). З другога боку, выкарыстоўваючы тапаграфічныя характарыстыкі, М. Ткачоў называе тры тыпы: 1) замкі разнастайных формаў на ўзвышшах, план якіх паўтарае канфігурацыю рэльефу; 2) размешчаныя ў нізінах, звычайна з рэгулярнай планіроўкай і добрай фартыфікацыйнай сістэмай, якая спалучала сцены, вежы, часта валы і равы з вадой; 3) размешчаныя ў нізінах з бастыённай абарончай сістэмай[24].

Паводле М. Ткачова, вайскова-манументальнае дойлідства Беларусі ў сярэднявеччы заўсёды адпавядала патрабаванням часу і спрыяла фармаванню прыгожага аблічча беларускіх гарадоў. У вайскова-інжынерным мастацтве XIV-XVIII стст. ён вылучаў дзве галоўныя рысы: 1) трывалая сувязь з мясцовымі традыцыямі вайсковага будаўніцтва і народнай драўлянай архітэктуры; 2) кантакты і выкарыстоўванне найноўшых дасягненняў у галіне фартыфікацыі Польшчы, Прыбалтыйскіх краін, Чэхіі, Нямеччыны, Нідэрландаў і Італіі. Менавіта праф. Міхась Ткачоў сваёй навуковай дзейнасцю пераканаўча даказаў, што Беларусь, яе народ, займаюць роўнае і пачэснае месца сярод іншых еўрапейскіх народаў і краін.

Закладзеныя Міхасём Ткачовым падмуркі беларускага вывучэння замкавага дойлідства паспяхова працягнулі іншыя айчынныя даследчыкі: Алег Трусаў, Алесь Краўцэвіч, Алесь Кушнярэвіч, Ігар Чарняўскі, Лявон Калядзінскі, Тацяна Бубенька, Андрэй Мяцельскі, Сяргей Тарасаў, Валянцін Собаль, Ірына Ганецкая і іншыя. Большасць з іх звярталі сваю ўвагу на даследаванні канкрэтных помнікаў (пераважна гэта былі мураваныя і драўляна-мураваныя замкі позняга сярэднявечча ў Лідзе, Крэве, Гродне, Наваградку, Міры, Віцебску, Нясвіжы, Заслаўі, Полацку, Гальшанах, Глуску, Крычаве і інш.), чым паглыбілі і ў значнай ступені ўдакладнілі, а месцамі і падкарэктавалі, галоўныя высновы М. Ткачова[25]. Новы археалагічны матэрыял, які быў уведзены ў навуковы зварот беларускімі даследчыкамі, моцна паўплываў на ўяўленні аб зам-

[24] М. А. Ткачоў, *Замак*, [у:] *Археалогія і нумізматыка Беларусі. Энцыклапедыя*, Мінск 1993, с. 260-261.

[25] О. А. Трусов, *Памятники монументального зодчества Белоруссии: архитектурно-археологический анализ*, Минск 1988; А. К. Краўцэвіч, *Гарады і замкі Беларускага Панямоння XIV-XVIII стст.*, Мінск 1991; І. Чарняўскі, *Развіццё палацава-замкавых комплексаў Беларусі ў канцы XV-XVII стст.*, [у:] *Сярэднявяковыя старажытнасці Беларусі: Новыя матэрыялы і даследаванні*, Мінск 1993, с. 66-73; А. Трусаў, В. Собаль, Н. Здановіч, *Стары Замак ў Гродна XI-XVIII стст. Гісторыка-археалагічны нарыс*, Мінск 1993; Ю. А. Заяц, *Заславль в эпоху феодализма*, Минск 1995; С. В. Тарасаў, *Полацк IX-XVII стст. Гісторыя і тапаграфія*, Мінск 1998; А. А. Мяцельскі, *Мсціслаўскае княства і ваяводства ў XII-XVIII стст.*, Мінск 2010; Г. Семенчук, *Деревянные замки Беларуси XIV-XVII веков (состояние изученности и исследовательские проблемы)*, „Lietuvos Pilys”, 2008, nr 4, s. 18-36.

кавай культуры Вялікага Княства Літоўскага, акрэсліў ролю і месца абарончых збудаванняў у штодзённым жыцці тагачаснага грамадства.

Беларускія гарады эпохі Вялікага Княства Літоўскага для М. Ткачова былі адной з важнейшых перадумоў фарміравання і развіцця беларускага народа і яго нацыянальнай свядомасці. Таму наступнай навуковай праблемай, якую паставіў перад сабою прафесар, гэта было вывучэнне разнастайных пытанняў арганізацыі абароны гарадоў Беларусі ў XIV-XVIII стст. Як адзначалася раней, дадзеная тэматыка была падставай доктарскай дысертацыі, якая пакуль не надрукавана асобнай кнігай[26]. Шматтомная машынапісная версія чакае свайго выдаўца.

Прафесар Міхась Ткачоў упершыню вывучыў структуру і арганізацыю абароны **ўсіх (!)** беларускіх гарадоў XIV-XVIII стст. у межах тагачаснай Беларусі. Ім прааналізаваны асаблівасці ваеннага дойлідства, узбраення гараджан, іх ваенна-прававое становішча, традыцыі абароны гарадоў ад знешняй небяспекі. Адзначым найбольш важныя і цікавыя высновы зробленыя М. Ткачовым. Іх мы таксама павінны разглядаць як перспектыўныя тэмы будучых, больш грунтоўных даследаванняў айчынных гісторыкаў і археолагаў. Асабліва актуальным з'яўляецца верыфікацыя меркаванняў і высноваў праф. М. Ткачова на рэгіянальным узроўні і тыпалагічным.

Канструктыўнай асновай, ядром абарончых умацаванняў большасці гарадоў былі фартыфікацыі, створаныя ў папярэдняй эпосе Кіеўскай Русі. У XIV-XVIII стст. яны перажылі некалькі этапаў развіцця і мадэрнізацыі адпаведна зменам у тактыцы і тэхніцы аблогі і абароны, з улікам выкарыстоўвання каменекідальнай і парахавой артылерыі. Паза традыцыйнымі дрэва-землянымі ўмацаваннямі мясцовыя дойліды будавалі разнастайныя каменныя ўмацаванні: вежы тыпу бергфрыд-данжон; замкі блізкія да прыбалтыйскіх крыжацкіх кастэляў; шматвежавыя нагорныя замкі; бастыённыя збудаванні з каменнай абмуроўкай і без яе. Характэрнай рысай большасці гаспадарскіх гарадоў Панямоння (Гродна, Навагрудак) і Палесся (Брэст, Пінск, Мазыр) з'яўляецца адсутнасць уласна мейскіх/гарадскіх умацаванняў. Мясцовыя замкі выконвалі галоўныя функцыі абароны.

Да сярэдзіны XVIII ст. у беларускіх гарадах функцыянавала абавязковая вайсковая павіннасць мяшчан і шчыльна звязаных з імі замкавых сялян. Сама вайсковая арганізацыя гараджан мела дзесяцінна-соценны і палкавы падзел. Падобная традыцыя магчыма сягае яшчэ ча-

[26] У Савецкім Саюзе і сучаснай Беларусі практыкуюцца так званыя „аўтарэфераты” дысертацый. Гэта своеасаблівыя *summary* асноўнага тэксту дысертацыі. Гл.: М. А. Ткачев, *Организация обороны городов Белоруссии XIV-XVIII вв.*, автореферат на соискание ученой степени доктора исторических наук, Минск, 1987, 33 с.

соў Кіеўскай Русі, а нормы магдэбургскага права канчаткова завершылі яе фармаванне — „еўрапеізавалі”, па словах Міхася Ткачова.

Характэрнай рысай беларускага сярэднявечча была пагалоўная ўзброенасць мяшчанства. Прызнаючы рэгулярны экспарт зброі з іншых краін, М. Ткачоў быў перакананы, што большая частка зброі выраблялася ў гарадах на месцы. „Для беларускага збройніка XIV-XVIII стст. практычна не існавала таямніц у галіне вытворчасці кожнага віду і тыпу ўзбраення, уключна з агнястрэльным” — напісаў прафесар.

Прававыя нормы (вайсковыя артыкулы Статутаў Вялікага Княства Літоўскага, адпаведныя артыкулы магдэбургскіх прывілеяў, „Артыкулы жаўнерскія”), гістарычная традыцыя вернасці прысязе каралю, гораду альбо магнату, уладальніку горада ці мястэчка, былі крыніцамі лакальнага і агульнадзяржаўнага патрыятызму. Адсюль гераічныя абароны ўсходнебеларускіх гарадоў ад шматлікіх нападаў Маскоўскай дзяржавы ад канца XV — да пачатку XVIII стст.

Перачытваючы тэксты Міхася Ткачова заўважаеш, што яны маюць выразна пазітывістычны характар. Але галоўным метадалагічным пастулатам навуковых даследаванняў М. Ткачова з’яўляецца нацыянальная пазіцыя. У яго тэкстах беларускі народ паўстае суб’ектам, а не аб’ектам гістарычнага працэсу. М. Ткачоў быў прыхільнікам прынцыпу „рады/дамовы” ў працэсе аб’яднання Літвы і Беларусі ў адзіную дзяржаву Вялікае Княства Літоўскае[27]. Адсюль і беларуска-літоўскі характар ВКЛ, праўда з палітычным дамінаваннем літоўскіх князёў на першых этапах дзяржаваўтварэння. А гэта, у сваю чаргу, спрыяла сумеснай барацьбе беларусаў і літоўцаў супраць крыжакоў. Дадзеная барацьба з’ўлялася адным з важнейшых стымулаў больш моцнага аб’яднання двух этнасаў, праўда першапачаткова ў межах рыцарскага стану баяр, а пазней шляхты. Супольная вайсковая дзейнасць, на якую звяртаў увагу М.Ткачоў, як адзін з галоўных механізмаў фармавання „палітычнага шляхецкага народу” ВКЛ, бачыцца нам перспектыўнай тэмай для будучых даследаванняў.

Нацыянальная пазіцыя праф. М. Ткачова праявілася таксама ў адкрытай станоўчай ацэнцы прац гісторыка архітэктуры Мікалая Шчакаціхіна і гісторыка Зміцера Даўгялы, якія былі рэпрэсаваны камуністамі ў 30-х гадах мінулага стагоддзя. Усім вядома, што творчасць ахвяр рэпрэсій глыбока хавалася ад навуковай і звычайнай грамадскасці. Аб ёй не гаварылася на лекцыях студэнтам, яна забаранялася для выкарыстоўвання ў дысертацыях і манаграфіях. На старонках сваіх кніг Міхась Ткачоў ужываў сапраўдную беларускую гістарычную лексіку і бараніў яе ад розных антынавуковых неалагізмаў. Як напрыклад, спроба

[27] М. А. Ткачоў, *Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі ...*, с. 15.

У. Чантурыі навязаць ужыванне тэрмінаў „крэпасць” да беларускіх замкаў і мест, а абароннае дойлідства называць „крапасным”[28].

Намі прадстаўлены ў агульных рысах біяграфія і аналіз навуковай творчасці прафесара Міхася Ткачова. Шмат яшчэ засталося па-за межамі артыкула: некаторыя факты з жыцця невядомыя і неадкрытыя, не ўсе тэксты грунтоўна прааналізаваны. Відавочна, што паўнавартаснае манаграфічнае даследаванне, прысвечанае гэтаму даследчыку, настаўніку і неверагодна цудоўнаму чалавеку і сапраўднаму патрыёту — адзін з найпажаданейшых праектаў айчыннай гістарыяграфіі.

**Summary**

**Professor Michaś Tkaczoú (10.03.1942-31.10.1992). A scientist. A social activist. A teacher.**

An outstanding scholar, political and social activist, Professor Michaś Tkaczou would have turned 70 years old on 10th March, 2012. He was born in Mścisław. In 1959 he started to study history at the Belarusian State University in Minsk. His studies were interrupted by compulsory internships as a physical worker. In 1964 he was delegated to work as a teacher to Żodzin. Four years later he returned to Minsk to work in the Institute of History of the Belarusian Academy of Science. Since 1968 his first studies in the field of historical archeology started to be published. He altogether wrote over 200 theses and 10 books, most of which were a result of his archeological research. In russificated Minsk he found a group of intellectualists who were faithful to Belarusian tradition and culture. In 1978 he started to work in a newly established university in Hrodna. He proposed to make Hrodna a ”city-museum and a city of museums”. At the end of the 1980s, Professor Tkaczou was one of the founders of the political club ”Torch”, thus initiating his participation in Belarusian democratic movement. Since 1989 he worked in the historical editorial office of the Belarusian Encyclopedia in Minsk. A year before he was one of the leaders of the Belarusian People’s Front. In 1991 he founded the Belarusian Social-Democratic Party Hromada. Prof. Tkaczou’s scientific achievement was an attempt to neutralize devastation which had been made in Belarusians’ mentality by Soviet mythology and historiography.

**Streszczenie**

**Profesor Michaś Tkaczoú (10.03.1942-31.10.1992). Naukowiec. Działacz społeczny. Nauczyciel.**

10 marca 2012 r. skończyłby 70 lat wybitny uczony, działacz polityczny i społeczny profesor Michaś Tkaczou. Urodził się w Mścisławiu. W 1959 r. rozpoczął studia historyczne na Białoruskim Uniwersytecie Państwowym w Mińsku, przerywane przymusowym stażem na stanowisku robotniczym. W 1964 r. został oddelegowany do pracy nauczycielskiej do Żodzina. Cztery lata później powrócił do Mińska, do pracy w Instytucie Historii Akademii Nauk Białorusi. Od 1968 r. zaczęły ukazywać się jego pierwsze opracowania z dziedziny archeologii historycznej. Napisał ponad 200 rozpraw i 10 książek, z których większość była wynikiem jego badań archeologicznych. W zrusyfikowanym Mińsku znalazł środowisko intelektualistów wierne białoruskiej tradycji i kulturze. W 1978 r. rozpoczął pracę w nowo utworzonym uniwersytecie w Grodnie. Proponował utworzenia z Grodna „miasta muzeum i miasta

[28] Там жа, с. 43.

muzeów". W końcu lat 80. profesor Tkaczou był jednym z założycieli klubu politycznego „Pochodnia", rozpoczynając swój udział w demokratycznym ruchu białoruskim. Od 1989 r. pracował w historycznej redakcji wydawnictwa Białoruska Encyklopedia w Mińsku. Rok wcześniej znalazł się w kierownictwie Białoruskiego Frontu Ludowego. W 1991 r. był założycielem Białoruskiej Socjaldemokratycznej Hromady. Twórczość naukowa Tkaczowa stanowiła próbę zneutralizowania spustoszeń, które w świadomości Białorusinów uczyniła mitologia i historiografia sowiecka.

**Hienadź Siemienczuk** — archeolog i historyk, docent w Katedrze Archeologii i Etnografii Grodzieńskiego Uniwersytetu Państwowego im. Janki Kupały.

**Andrej Miacielski** — starszy pracownik naukowy Wydziału Historii Białorusi Wieków Średnich i Początku Czasów Nowożytnych Instytutu Historii Narodowej Akademii Nauk Białorusi w Mińsku.

**Lawon Kaladzinski** - archeolog i historyk, docent w Białoruskim Uniwersytecie Pedagogicznym im. Maksyma Tanka.